ЗЬМЕСТ



Часапіс „Беларуская моладзь" можна набыць у ваддзелах ЗБМА:

1. Auhien Łysiuk, 212 Montauk Ave., Brooklyn 8, New York
2. Michaś Karanieŭski, 14 Easton Ave., New Brunswick, New Jersey
3. Uładzimier Duniec, 814 Brayton Ave., Cleveland 13, Ohio

Часапіс можна таксама выпісаць праз беларускую радыёвую праграму ў Нью-Ёрку:

Byelorussian Radio Program (WPOW)
41 East 42 St., New York, N. Y.

Адрыс рэдакцыі: „Беларуская моладзь", 401 Atlantic Ave., Brooklyn 17, N. Y.

**БЕЛАРУСКАЯ МОЛАДЗЬ**

**Квартальны часапіс беларускага маладога пакаленьня ў Амэрыцы**
**Выдае: Згуртаваньне Беларускае Моладзі ў Амэрыцы**

**Год выд. I** **СТУДЗЕНЬ 1959 г.** **№1**

## *Вясёлых Калядных Сьвятау!*

* * *

*Для ўсіх збаўленьнем на гыстым сене*
*У беднай стайні Ён нарадзіўся.*
*Зазьзяла зорка, а ў небе звонка*
*Анельскі, дзіўны там сьпеў разьліўся.*

*І мы ўсе разам ізь песьняў скажам:*
*— Слава на Ўзвышнях Дзіцяці-Богу!*
*Мо у народзе у гэтым годзе*
*Разьвее гора, сум і трывогу.*

*Край наш каханы дзесьці забраны*
*Ў горы, цяррэньні, долі ня знае.*
*Народ закуты церпіць пакуты,*
*На Цябе толькі надзею мае.*

*Хай-жа навекі для галавека*
*Будзе свабода на цэлым сьвеце!*
*Малітвы ўзносім і Цябе просім*
*Мы, Беларусі верныя дзеці.*

*Ул. Васілёк*

## *Шгасьлівага Новага Году!*

# КАЛЯДЫ

Каляды маюць сваё старадаўнае паходжаньне. Ужо за паганскімі часамі на Каляды адбываліся тагачасныя рэлігійныя абрадкі, заснаваныя галоўна на славянскай міталёгіі. Каляды ў нашых прашчураў уважаліся за пачатак сонечнага году й мелі сваё сымбалічнае значаньне. За часамі хрысьціянства да Калядаў было прытарнаванае сьвята Нараджэньня Хрыста, з мэтаю прысьпешаньня пашырэньня веры Хрыстовае сярод паганскіх народаў.

Калі ход пра дакладную дату Нараджэньня Хрыста, дык у тэй пары яна канчальна ня была яшчэ ўстаноўленая. Дзень 25 сьнежаня, як дату Нараджэньня Хрыста, першы ўстанавіў Гіпаліт Рымскі. Дзеля таго, што на гэтую дату ня было навуковага пацьверджаньня, дык іншыя айцы Царквы падавалі іншыя даты. У Александрыйскай Царкве сьвяткавалі гэты дзень на 18-19 красавіка, а ў Бізантыі сьвяткавалі Нараджэньне Хрыста 6-га сьнежня. Куды пазьней, бо толькі ў 5-м стагодзьдзі ўва ўсёй хрысьціянскай царкве быў прыняты рымскі звычай сьвяткаваць Нараджэньне Хрыста 25-га сьнежаня (у праваслаўнай Царкве сьвяткуецца паводля старога стылю).

Калядныя сьвяты розьняцца ад іншых сьвятаў тым, што яны маюць свой асаблівы характар, які выяўляецца ў калядных абрадах, прыгожых старых звычаях, песьнях, варожбах. Гэтак, прыкладам, паводля варажбы, калі калядная ноч зорная, дык налета будзе добры ураджай. Дзяўчаты выходзяць за вароты ды ў першага, каго спаткаюць, пытаюцца ягонае імя, каб даведацца імя свайго будучага суджанага. Гаспадар у сьвяты вечар дбае, каб ніводная ягоная рэч у гэтым часе ня была ў чужым доме, бо гэта — благі знак.

Пад самы вечар гаспадар падаецца ў гумно і там, вымаўляючы малітву, бярэць бярэмца сена й дажынкавы снапок жыта ды прыносіць у хату. Увечары, як толькі пакажуцца зоркі на небе, кладуць на стол сена й накрываюць яго белым настольнікам, а дажынкавы снапок жыта ставяць на покуце, пад абразамі. На стале заўсёды кладзецца хлеб і соль, ставіцца „посная куцьця" ды іншыя стравы. Запальваюць лямпадку пад абразамі й сьвечкі на стале, ды ўся сям'я ўрачыста прыступае да малітвы Нованароджанаму Дзіцятку-Хрысту. Пасьля гэтага гаспадар складае пажаданьні, кажучы: „Віншую з шчасьмем, здароўем, Сьвятым Раством, Ісусам Хрыстом". Гаспадыня адказвае: „Дай, Божа, у добрым здароўі гэтыя сьвяты правесьці ды й налета дачакацца".

Пачынаючы есьці вячэру, гаспадар першы бярэць поўную лыжку куцьці, адчыняе дзьверы хаты й кліча: „Мароз, мароз, хадзі да нас куцьцю есьці, а калі ня йдзеш, дык ня йдзі й на жыта, пшаніцу ды ўсялякую пашніцу!" А ў іншых мясцовасьцях Беларусі гаспадар кліча „Дзядоў" куцьцю есьці.

Пасьля вячэры ўсе ідуць у царкву, а вярнуўшыся сьпяваюць калядныя песьні, займаюцца варажбою або іншымі традыцыйнымі справамі. У каляднай начы дзяўчаты кладуць у пасьцель сена й яловыя галінкі, — каб праўда прысьнілася. Каб даведацца, які будзе ўраджай на лён, выцягваюць спад настольніка сена, — калі выцягнецца даўгая сяніна, дык будзе добры ўраджай, а калі кароткая — благі. Патруху ад сена, што пад настольнікам, захоўваюць да веснавое сяўбы, а тады мяшаюць яе з насеньнем збожжа й сеюць. Гэта мае бараніць каласы збожжа ад псаваньня. Рэшту страваў і сена аддаюць жывёле.

На працягу калядных сьвятаў па хатах ходзяць калядоўшчыкі із „зьвяздою" й „батлейкаю" ды сьпяваюць рэлігійныя песьні, славячы Нованароджанага Хрыста. У сваіх асаблівых традыцыйных калядных песьнях яны таксама віншуюць гаспадароў і іхную сям'ю, за што дастаюць падзяку ды падарункі.

Ня так даўна сярод шмат якіх народаў, а пазьней і на Беларусі, прышчапіўся звычай ставіць для дзяцей ялінку. Ялінку ўпрыгожваюць рознымі цацкамі, яблыкамі, цукеркамі, зоркамі. Сьвяты Мікалай або як у іншых народаў завуць, „Дзед Мароз" прыносіць дзецям падарункі. Нашымі часамі практыкуецца даваць падарункі й дарослым, а таксама высылаць сьвяточныя пажаданьні. Ялінку ня менш за дзяцей упадабалі й вялікія, а таму ня дзіва, што яе ставяць цяпер бадай што ў кажнай хаце. Ялінка — вельмі прыгожае мілае дрэўца. Яна заўсёды зялёная, жывая. Ялінка мае вялікае сымбалічнае значаньне ў сучасным хрысьціянскім сьвеце—гэта сымбаль дрэва жыцьця, якое прыпамінае нам жыцьцё вечнае, дараванае Нованароджаным Бога - Чалавекам Ісусам Хрыстом.

*А. Кароль.*



*Беларусь да 18-га стагодзьдзя звалася Літвой* ды станавіла дзяржаўнае й культурнае ядро Вялікага Княства Літоўскага (ВКЛ), што было ў фэдэрацыі з Польшчай. Да 1697 г. беларуская мова была дзяржаўнай мовай ВКЛ. У гэтай мове пісаліся ўсе ўрадавыя й дзяржаўныя дакумэнты. У беларускай мове напісаны таксама вялікі кодэкс нашага звычаёвага права — Статут Вялікага Княства Літоўскага. Некаторыя старыя людзі й да сяньня завуць нас Ліцьвінамі, Літоўцамі або Літвакамі.

# СТУДЫЯВАЦЬ — АЛЕ ШТО?

Час бяжыць, і паступова беларуская студэнцкая грамада ў ЗША ператвараецца ў групу абсальвэнтаў вышэйшых школаў. З гэтых абсальвэнтаў і складаецца актыў Беларуска-Амэрыканскага Акадэміцкага Таварыства, імі папаўняюцца шары іншых нашых грамадзкіх арганізацыяў.

Яшчэ нядаўна лік актыўных студэнтаў усё меншаў: шмат хто палохаўся навукі ў чужой мове й нярэдка таксама матар'яльных нястачаў, ад якіх ніводзін студэнт ня выкруціцца. Але вось ад нейкага часу можна назіраць суцешную зьяву — беларуская моладзь, паканчаўшы амэрыканскія сярэднія школы, пачынае падавацца на ўнівэрсытэты. Адны самі сабе добра ўсьведамляюць вартасьць вышэйшае асьветы (асабліва тыя, што пабылі ў войску), а іншым памагаюць прыйсьці да гэтага выснаву разумныя бацькі.

Гэта ўжо дадатны факт, што моладзь горнецца да навукі й не паддаецца моцнай прынадзе лёгкіх заработкаў й бястурботнага жыцьця. Аднак, гэтага яшчэ мала. Каб студыі выйшлі на як найбольшую карысьць студэнту і грамадзтву, да якога ён належыць (а ня можна забывацца, што грамадзтва спадзяецца дапамогі ад чалавека з вышэйшай асьветай), трэба, каб новы студэнт абраў правільную галіну студыяў.

Назіраючы нашае новае студэнцкае пакаленьне, можна заценіць, што вялікая бальшыня зь іх ставіць за мэту сваіх студыяў такія прафэсіі, на якія цяпер вялікі попыт і якія могуць даць матар'яльнае забясьпечаньне ў будучыні. Такой прафэсіяй была яшчэ да нядаўнага часу інжынерыя. Калі-б ня страх перад даўгой навукай і вялікімі выдаткамі, знайшлося-б у нас напэўна шмат кандыдатаў на іншую матар'яльна пэўную прафэсію —мэдыцыну. У амэрыканскіх студэнтаў назіраецца падобная дыспрапорцыя на карысьць студэнтаў гандлю, — бо „бізнэс" абазначае бясьпечную будучыню. У нас дагэтуль мала хто студыюе гандаль, відаць таму, што цяперашняе пакаленьне Беларусаў ня мае гандлёвых традыцыяў (такіх, як у Жыдоў, прыкладам), а другое, ніхто з нас ня мае капіталу на заснаваньне гандлёвага прадпрыёмства.

Пры выбары кірунку студыяў пачынаючы студэнт часта забываецца праверыць, ці ён мае здольнасьць да абранае ім навукі — ці дасьць ён сабе зь ёю рады. Каб у гэтым дапэўніцца, трэба глыбейшае зацікаўленьне ў тэй ці іншай прафэсіі, пазнаёміцца зь ёю да пэўнай меры. Адным словам, трэба дапэўніцца, ці яна адпавядае нашаму характару й здольнасьцям. Нельга й непрактычна кіравацца пры выбары прафэсіі вылучна надзеяй на матар'яльна лепшую будучыню.

Нажаль, у вялікай бальшыні новых студэнтаў няма выробленага зацікаўленьня ці навет абзнаямленьня з пэўнай галіной навукі. Дзеля таго фактар матар'яльны адыграе гэтакую вялікую ролю пры выбары кірунку студыяў.

Каб памагчы беларускаму студэнцтву лепш зарыентавацца ў гэтай праблеме, пачынаючы ад наступнога нумару, часапіс „Беларуская Моладзь" будзе зьмяшчаць інфармацыі аб розных прафэсіях (інжынерыі, мэдыцыне, гісторыі, хэміі й г. д.) у выглядзе паасобных артыкулаў. Інфармацыі будуць давацца сябрамі БААТ, што паканчалі ўнівэрсытэты і ўжо працуюць у розных прафэсіях.

Галоўнай мэтай гэтых артыкулаў будзе:

— паказаць розныя разгаліненьні дадзенае прафэсіі,

— паказаць спэцыфічныя цяжкасьці пры студыях,

— паказаць, якія заданьні мусіць на практыцы выконваць сябра гэтай прафэсіі (лекар, хэмік і г. п.),

— паказаць карыснасьць вывучэньня дадзенае прафэсіі для беларускага грамадзтва й беларускай вызвольнай справы наагул.

Я хацеў-бы сьніцца крыху на апошнім гэтым пункце. У будучай незалежнай Беларусі будуць патрэбныя ўсялякага роду кампэтэнтныя адумыслоўцы (спэцыялістыя), — ад лекароў да палітыкаў, — але хіба найбольш будуць патрэбныя спэцыялістыя грамадзкіх ведаў — публіцыстыя, гісторыкі, моваведы, дыпляматы, эканамістыя, настаўнікі, што здолеюць пакіраваць грамадзкае жыцьцё незалежнае Беларусі.

Інжынераў, лекароў ды іншых тэхнічных працаўнікоў прадукуюць і цяпер у БССР, і яны, магчыма, ня горшыя адумыслоўцы ў сваіх прафэсіях, чымся будуць тыя з нас, што паканчаюць амэрыканскія ўнівэрсытэты.

Зусім інакш справа стаіць з адумыслоўцамі-гуманістымі, якія кіруюць грамадзкае жыцьцё ў сяньняшняй паняволенай Беларусі. Сярод іх вельмі вялікі працэнт навезенага расейскага элементу, або асобаў беларускага паходжаньня, узгадаваных у чужым духу. Зь іх будзе невялікая карысьць незалежнай Беларусі. Адумыслоўцаў грамадзкіх справаў у нас напэўна ня будзе ставаць.

Дзеля таго трэба, каб нашыя новыя





Здымка — М. Казьлякоўскага

Беларуская моладзь Нью-Ёрку перад выступам у канцэрце „Рады Народных Мастацтваў". Ля беларускага сьцягу: Ольга Мельяновіч і В. Паланевіч, кіраўнік аддзелу ЗБМА ў Нью-Ёрку.

студэнты першым чынам цікавіліся гуманістычнымі навукамі. Праўда, студэнт гуманістычных навукаў на амэрыканскім унівэрсытэце ня здолее стацца спэцыялістым беларускіх справаў, будучы ў амэрыканскім асяродзьдзі. Аднак, студыюючы ў гэтым кірунку, ён вырабіць сабе падыход да гэтых справаў — ягоны спосаб думаньня выкрышталізуецца. Будучы зацікаўленым першым чынам беларускімі пытаньнямі, ён здолее вельмі добра выкарыстаць гэтыя набытыя якасьці для працы на беларускай ніве.

Сама адукацыя такога студэнта робіць яго больш кваліфікаваным разглядаць і дасьледаваць беларускія пытаньні, дасьць яму магчымасьць лепш іх зразумець і стацца фахоўцам у галіне беларусаведы. Інжынеру, прыкладам, куды цяжэй гэтага дасягнуць, бо ў яго зусім іншая адукацыя.

Будучы фахоўцам беларусаведы, знаючы адначасна добра ангельскую мову й амэрыканскі спосаб думаньня —можна тут, у Амэрыцы, вельмі шмат зрабіць для беларускай справы — куды больш, чымся ў стане зрабіць старэйшыя працаўнікі сярод цяперашняй беларускай эміграцыі ў Амэрыцы.

Пішучы гэта, ня маю наўвеце перацягнуць усіх студэнтаў інжынерыі на гуманістыку; хачу толькі падчыркнуць важнасьць і вялікую патрэбу адумыслоўцаў-гуманістых у нашым грамадстве.

Ведама, калі хто мае вялікі нахіл да тэхнічных навукаў, або мае вялікія здольнасьці да іх, дык ён і павінен студыяваць у гэтым кірунку. Калі-ж новы студэнт чуецца на раздарожжы й магчыма чуе навет нахіл да грамадзкіх навукаў (але баіцца, што зь іх не пражыве) — дык ён абавязкава мусіць узяць наўвагу патрэбы беларускага грамадзтва й свой нахіл. Тады ён стане на правільную дарогу. Нахіл да нечага, замілаваньне, спалучаныя з працай — гэта й ёсьць перадумовы да паўстаньня выдатнае адзінкі ў тэй ці іншай галіне навукі. А выдатная адзінка-фаховец ніколі ня будзе наракаць на сваё матар'яльнае становішча.

**Юстыч.**

## ЗІМОЙ

Здароў, марозны, звонкі вечар!
Здароў, скрыпучы, мяккі сьнег!
Ня вее вея, сьціхнуў вецер,
І вольны лёгкіх санак бег.

Як мары белыя бярозы
Пад сіняёй начной стаяць.
У небе зоркі ад марозу
Пахаладзелыя дрыжаць.

Вільготны месяц стуль на поле
Празрысты, сьветлы стоўп спусьціў
І рызай срыбнаю раздольле
Сьнягоў сінеючых акрыў.

Узрывайце-ж іх санямі, коні!
Зьвіні, вясёлых бомаў медзь!
Вакол лятуць бары і гоні,
У грудзёх пачала кроў кіпець.

**Максім Багдановіч**

*Ня сілаю, дык спосабам галавек усяму на сьвеце зарадзіць.*

*Гулі ці аднаго ў лапці абулі.*

*Слаўны бубен за гарамі, а як блізка — роўны з намі.*



# НАШ КРАЙ І НАРОД

*Што абазначае наш дзяржаўны гэрб — Пагоня?*

— **Пагоня (ваяк на кані з узьнятым мячом)** — гэта сымбаль абароньніка свабоды Беларусі, сымбаль беларускага патрыёта, які імкнецца бараніць правы й незалежнасьць нашага краю. Пагоня дайшла да нас із часоў незалежнасьці нашых княстваў, пасьля задзіночаных у вадно Вялікае Княства Літоўскае, дзяржаўным гэрбам якога й была Пагоня.

---

*Што абазначае бел-чырвона-белы сьцяг?*

— **Бел-чырвона-белы сьцяг** — гэта пралітая кроў (чырвоны) за сьветлую ідэю свабоды й незалежнасьці Беларусі (белы). Белы й чырвоны — таксама найбольш пашыраныя колеры беларускае нацыяльнае вопраткі.

---

*Чаму была абвешчана Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка (БССР)?*

— Дзеля таго, што перад тым, як бальшавікі стварылі „незалежную" БССР (было гэта 1 студзеня 1919 г.), Рада Ўсебеларускага Кангрэсу абвесьціла Беларусь дэмакратычнай народнай рэспублікай (9 сакавіка 1918 г.), а 25 сакавіка 1918 г. Беларуская Народная Рэспубліка (БНР) была абвешчаная незалежнай дзяржавай. Стварэньне БССР з часткі беларускіх земляў было вымушаным адказам на абвешчаньне незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі.

---

Калі хочаш ведаць, дзе Беларусь — навучыся гэтыя звароткі з Купалавага вершу „Сын і маці":

*Там плывуць Дняпро і Сожа*
*Ды Дзьвіна і Нёман,*
*Белавежы, Налібокаў*
*Там гувацi гоман.*

*Гарады там Менск і Вільня,*
*Магілеў, Гародня,*
*І Смаленск з сьцяной цаглянай*
*Разьляглі выгодна.*

*Во ўсё гэта, мае дзеткі,*
*Ад межаў да межаў*
*Беларусяю завецца*
*Й да цябе належа.*

Ці можаш Ты сказаць, што гэта — Белавежа й Налібокі? Ці можаш паказаць на карце, дзе ляжаць прыгаданыя тут мясцы? Калі не, папытайся ў бацькоў або ў старэйшага сябры — яны Табе адкажуць.

***Дарагі Сябра! Напішы нам, якія іншыя пытаньні зь беларусаведы цікавяць Цябе, што-б Ты яшчэ хацеў знаць пра свой край і народ. Мы пастараемся адказаць на іх у нашым наступным нумары.***

***— Рэдакцыя.***

# СМАЛЕНШЧЫНА — ЧАСТКА БЕЛАРУСІ

**Нам усім хіба добра ведама, што бальшавікі, пайшоўшы на суступкі беларускаму нацыянальнаму руху й зарганізаваўшы БССР, улучылі ў яе далёка ня ўсю прастору, заселеную беларускім народам. У межах савецкае гора-дзяржавы БССР менш за палавіну этнаграфічнае Беларусі — рэшта прагандляваная дзеля розных палітычных меркаваньняў Польшчы, Летуве, Лацьвіі, а найбольшая частка проста адрэзаная ды падараваная „старэйшаму брату". Каля 160000 кв. км. усходня-беларускіх земляў з 7-мілёнгым жыхарствам належыць РСФСР.**

**Усходняя мяжа этнаграфічнае Беларусі — нашая мяжа з Расейцамі — пачынаецца ля возера Чудзкага на поўначы, ідзе на ўсход да вышнявінаў ракі Волгі, адтуль зварачае на паўдзённы ўсход да места Ржэва, пакідаючы яго на беларускім баку. Далей мяжа з Расеяй прыблізна супадае з усходняй мяжой Смаленскае вобласьці РСФСР і даходзіць да ўтоку ракі Вугры ў Аку ля места Калугі. Адсюль яна зварачвае на паўдзённы захад, і прабягае на ўсход ад местаў Жыздры, Бранску, Севску ды Пуціўля ля ракі Сейму. Ад Пуціўля на захад ідзе этнаграфічная мяжа з Украінцамі.**

**Паказаная гэтта мяжа беларускай этнаграфічнай тэрыторыі** прызнаецца **й цяпер савецкімі навукоўцамі — філялёгамі й этнаграфамі,** з паходжаньня **Расейцамі. „Историческая грамматика русского языка" П. Я. Черных, выданая ў Маскве ў 1954** годзе, падае **ў залучанай карце ўсходня-славянскіх моваў блізу аднолькавы засяг беларускае мовы, адно залічаючы Пскоўшчыну й паўночную** Браншчыну **да „пераходных беларуска-расейскіх гаворак".** Затое ў савецкіх выданьнях больш папулярнага характару захопленая Ўсходняя Беларусь заўсёды выстаўляецца „ісьцінна рускай зямлёй".

Нам, Беларусам у вольным свеце, канечне трэба дакладней пазнаць этнаграфічную прастору свае Бацькаўшчыны, а сабліва пазнаёміцца зь ейнай усходняй часткай, якую ўжо некаторыя з нас гатовы прызнаць Расейцам. Трэба, каб мы, інфармуючы вольныя народы сьвету аб Беларусі, самі сабе добра ўсьведамлялі, што сабою становіць наш край з геаграфічнага, гістарычнага й эканамічнага гледзішча. Трэба, каб мы добра ведалі кажны куток і кажную геаграфічную асаблівасьць Беларусі, асабліва ейных узьмежных земляў, на якія прэтэндуюць нашыя агрэсыўныя суседзі.

Усходнюю Беларусь (тэрыторыю, далучаную да РСФСР) можна падзяліць на тры важнейшыя геаграфічныя акругі: Пскоўшчыну, Смаленшчыну й Браншчыну. З гістарычнага гледзішча найбольш ведамая й слаўная зь іх — гэта Смаленшчына, на якой хачу тут спыніцца. Разгляданая прастора Смаленшчыны менш-больш супадае із Смаленскай вобласьцяй РСФСР.

Ужо першыя гістарычныя ведамкі аб гэтым краі вяжуць яго з рэштай беларускіх земляў. У 9-ым стагодзьдзі, калі зьявіліся першыя летапісныя ўспаміны аб Смаленску (у 882 г.), аколіцы ягонныя былі заселеныя беларускім плямём Крывічоў, якія займалі тады паўночна-ўсходнюю частку сяньняшняй Беларусі, зь местамі Полацкам, Віцебскам ды Смаленскам.

Пасьля часовае залежнасьці ад Кіева, Вычаслаў, сын кіеўскага князя Яраслава Мудрага, аднавіў у 1054 г. самастойнасьць Смаленскага княства. У 1125 г. смаленскі пасад займае князь Расьціслаў Амсьціславіч, пачынаючы гэтым слаўную эпоху Расьціславічаў, у часе якое Вялікае Княства Смаленскае сталася адным з наймагутнейшых гаспадарстваў Усходняе Эўропы, ня толькі ў сэньсе палітычным, але таксама й культурным і навуковым.

Смаленск стварыў у сьценах сваіх манастыроў цэлую літаратурна-асьветную школу. У 1130 г. князь Расьціслаў засноўвае тут першную грэцка-лацінскую школу на ўсходзе Эўропы. Ягоны сын Раман (1160-1180) уславіўся шырэньнем навукі, закладаньнем школаў, падтрымоўваньнем навукоўцаў і літаратараў. Найбольш выдатнымі сярод гэтых былі манахі: Клім Смаляціч, плодны навуковец і пісьменьнік, які ў 1147 г. быў абраны ў Кіеве за мітрапаліта „ўсяе Русі", і Аўрам Смаленскі — патрон багаслоўскае асьветы ў Беларусі. Яны й іхныя вучні-манахі пакінулі па сабе цэлы сьцяг літаратурных твораў: лісты Кліма Смаляціча, жыцьцяпіс Аўрама (аўтарства манаха Ахрэма), аповесьць аб сьв. Мяркуру, абаронцу Смаленска ад Татар, „Падарожжа Ігната Смаленскага ў Палестыну", „Словы" й „Сказаньні" Аўрама ды інш.

У гэтую „залатую пару" свае гісторыі Смаленск, будучы на скрыжаваньні гандлёвых шляхоў з поўначы на поўдзень („з Варагаў у Грэкі") ды з заходу на ўсход (уздоўж рэкаў Дзьвіны й Акі) — стаўся важным гандлёвым цэнтрам. Сам назоў места паходзіць ад таго, што тут купцы правілі, смалілі свае пабітыя чаўны, перад далейшым падарожжам Дняпром або Дзьвіною. Сюды прыяжджалі Немцы з Рыгі ды іншых местаў Ганзы, Скандынавы з абтоку Готлянду, Баўгары знад Волгі, Кіяўляне, Ноўгародцы. У 1229 г. была падпісаная „Смаленская Тарговая Праўда" — Смаленскам, Віцебскам і Полацкам з аднаго боку, ды ганзэацкімі местамі Рыгай, Візбі, Любэкам і Брэмэнам, з другога.

У Вялікім Княсьцьве Смаленскім ужо тады было разьвітае земляробства. Смальняне, апрача перапродажу тавараў з Усходу й Захаду, гандлявалі збожжам, воскам, мёдам, скураю, лёнам ды іншымі сельска-гаспадарскімі прадуктамі свайго краю.

Як ужо было сказана, Вялікае Княства Смаленскае было магутнай палітычнай адзінкай. Смальняне гэтым часам заўсёды дружна выступалі разам зь іншымі Беларусамі — Палачанамі, Севяранамі, Псковічамі — супраць супольных вагароў — Суздальцаў (пазьнейшых Расейцаў) і Кіяўлянаў.

(Заканчэньне ў наступным нумары)

**Юстыч**

*Бог усё багыць ды ня скора скажа.*

*Не спрабаваўшы гора, не пазнаеш і шгасьця.*

*Добрая слава далёка йдзе, а благая — яшгэ далей.*

*Вугыся, нябожа, і Бог паможа.*

*Пад ляжагы камень вада не цягэ.*

## СТАРЭЙШЫЯ МАЛОДШЫМ

*(Із скаўцкага альбому сьцягу Віндзішбэргердорф і альбому Дванаццаткі).*

*Залатая нашая моладзь! Перад Вамі шлях прастору. Гэта той нацыянальны шлях, на якім сіла Вашай маладосьці мусіць зьдзейсьніць мэты Вашых бацькоў.*

Мікола Равенскі

*У найгоршых сытуацыях мы знойдзем заўсёды маральныя сілы, калі будзем у парадку із сваім асабістым і грамадзкім сумленьнем.*

Хведар Ільляшэвіч

*Помні, моладзь, хто згінаць прывыкне шыю, ужо вагэй ня ўзьніме угару.*

Натальля Арсеньнева

*Каб Вас ня вугылі заўсёды іншыя — вугэцеся самі: нашая Бацькаўшчына патрабуе лепшых людзей, чым мы ёсьць. Каб ня спыніцца — пазнавайце новае. Каб Вас успомнілі па сьмерці, ня будзьце мёртвыя пры жыцьці. Ведаючы куды ісьці, не забывайцеся адкуль Вы прыйшлі.*

Масей Сяднёў

*Беларуская моладзь — нашая будучыня. Яна павінна адно памятаваць: народ можа шмат чаго страціць, перажыць жахі войнаў і ярмо чужынцаў, і ўсё-ж здолее падняцца, калі ня страціць свае мовы, свае культуры.*

Рыгор Крушына

*Беларускі патрыёт павінен мець дзьве веры. Першая вера — гэта вера ў Бога згодна із звычаем, атрыманым ад бацькоў. З гэтае веры выцякае ягоны маральны сьветагляд. Другая вера — гэта вера ў незалежнасьць свае Бацькаўшчыны — Беларусі. Гэтая вера павінна быць моцная, гарачая. Для яе беларускі патрыёт павінен быць заўсёды гатовы на ўсе ахвяры, да ахвяры жыцьця ўлучна.*

гэн. Францішак Кушэль

*У беларускім нацыянальна-вызвольным руху займала й займае выдатнае месца моладзь. Гэта й натуральна, бо моладзь заўсёды найбольш ахвярная й энтузіястычная ў сваёй працы й змаганьні. Дык маё найшчырэйшае пажаданьне: каб гэтая самаахвярнасьць і энтузіязм ніколі не астывалі, але ўсюды й заўсёды былі вядучымі дзейнікамі ў жыцьці й працы нашае моладзі.*

др. Ст. Станкевіч



## ХРОНІКА

### НЬЮ-ЁРК

**Сёмы гадавы зьезд ЗБМА**

30 жніўня 1958 г. у памешканьні ІУКА, што на розе Атлянтык і 3-яе эвэню ў Брукліне, адбыўся сёмы гадавы справаздачна-перавыбарны зьезд ЗБМА. У новае Галоўнае кіраўніцтва ўвайшлі: Міхась Казьлякоўскі — кіраўнік, Сяргей Карніловіч — заступнік, Васіль Мельяновіч — карэспандэнцыйны сакратар, Міхась Каранеўскі — пратакольны сакратар, Аўген Несьцяровіч — фінансавы рэфэрэнт.

Таго-ж дня ньюёркаўскі аддзел ЗБМА наладзіў у Лэнокс Гол вечарыну з конкурсам беларускае народнае вопраткі. Удзельнікаў было каля 600 асобаў.

**Выступ у гімназіі для малодшых імя Жан д'Арк**

Першага лістапада 1958 г. танцавальны гурток ньюёркаўскага аддзелу ЗБМА браў удзел у гадовым фэстывалі танцаў, што быў ладжаны Міжнароднай Групай Народных Танцаў у гімназіі для малодшых імя Жан д'Арк у Нью-Ёрку. На фэстывалі былі выкананыя тры беларускія народныя танцы: крыжачок, мікіта й лявоніха.

**ЗБМА на Восеньскім фэстывалі**

23 лістапада 1958 г. у Інстытуце Модаў на 225 Вэст 24-я вул. у Нью-Ёрку быў наладжаны восеньскі фэстываль народнага мастацтва, што прайшоў зь вялікай удачай. У праграме фэстывалю выступіў таксама ньюёркаўскі танцавальны гурток ЗБМА з двума народнымі танцамі — крыжачком і мікітай. Сп-чна Клава Ярашэвіч выканала беларускую песьню „Васілёчкі".*) Апрача беларускіх удзельнікаў, у праграме фэстывалю выступілі прадстаўнікі 12-х іншых нацыянальнасьцяў.

**Абход угодкаў Слуцкага паўстаньня**

30 лістапада 1958 г. Згуртаваньне Беларускіх Вэтэранаў, аддзел Нью-Ёрк, ладзіла ў памешканьні Беларускага Грамадзкага Цэнтру ўрачыстае сьвяткаваньне 38-х угодкаў антыбальшавіцкага Слуцкага паўстаньня.

Сьвяткаваньне пачалося літургіяй і паніхідай, адпраўленымі Яго Высокапрэасьвяшчэнствам Уладыкам Васілём у суслужэньні Высокадастойнага мітрафорнага пратаярэя а. Хведара Данілюка, былога слуцкага паўстанца. Папаўдні адбыўся ўрачысты сход у залі БГЦ. Гэн. Ф. Кушаль прачытаў рэфэрат на тэму „Няма перамогі без ахвяраў". У мастацкай частцы выступілі дэкляматары, салістыя й хор пад кіраўніцтвам сп. М. Тулейкі. У сьвяткаваньні ўзяло ўдзел каля 300 асобаў.

**Сябры ЗБМА — харыстымі**

У беларускім ньюёркаўскім царкоўным і сьвецкім хоры, які кіруе сп. М. Тулейка, пяе 13 сяброў ньюёркаўскага аддзелу ЗБМА.

**Рэгулярныя зборкі**

Аддзел ЗБМА ў Нью-Ёрку ад пачатку новага сэзону вядзе рэгулярныя зборкі. Штопятніцы а 7:30 увечары

---

*) Песьню „Васілёчкі" шмат хто ўважае за народную. Тымчасам песьня гэтая напісаная кампазытарам Міколам Куліковічам на словы беларускага паэты Міхася Кавыля.

ў бруклінскім памешканьні ІУКА, 3-я эвэню № 30, зьходзяцца сябры й сяброўкі аддзелу, каб правесьці супольна час у гульнях і працы. Танцавальны гурток пашырае свой рэпэртуар. Група сяброў вучыцца таксама беларускіх калядак, каб зноў наведаць з калядой Беларусаў Нью-Ёрку й ваколіцаў. Абедзьве групы кіруе сп-чна Ала Орса.

**Квартальнік „Беларуская моладзь"**

Галоўнае кіраўніцтва ЗБМА пастанавіла выдаваць часапіс моладзі пад назовам „Беларуская моладзь". Часапіс мае выходзіць квартальна. У рэдакцыйную калегію ўвайшлі: Я. Запруднік, Ю. Станкевіч, М. Казьлякоўскі, В. Мельяновіч, А. Нясьцяровіч.

**Беларускае вясельле**

22 лістапада 1958 г. у беларускім катэдральным саборы сьв. Кірылы Тураўскага на 401 Атлэнтык Эвэню ў Брукліне, сяброўка ЗБМА Элеанора (Кінуся) Каханоўская й сп. інж. Леанід Норык узялі шлюб. Вясельле адбылося ў бруклінскім „Прэм'ер Палацы" пры ўдзеле 200 асобаў сваякоў маладых, сяброў і знаёмых. Вясельле прайшло запраўды вясёла, і яго можна назваць гадавым беларускім вясельлем у Нью-Ёрку.

**Міс Айві на беларускай радыёвай праграме.**

14 сьнежня на беларускай штотыдзельнай радыёвай праграме Міхася Казьлякоўскага ў Нью-Ёрку выступіла міс Айві, дарадніца беларускае моладзі пры ІУКА ў Брукліне. Сп-чна Айві расказала слухачом (паангельску) пра рэгулярныя зборкі беларускае моладзі ў ІУКА ды заклікала ўсіх іншых далучыцца да цікавых і карысных штопятнічных зборак беларускае моладзі.

**„Крыстмэс парты" зь беларускімі танцамі.**

17 сьнежня ў будынку ІУКА, што на розе Атлэнтык і 3-е эвэню ў Брукліне, адбыўся калядны канцэрт, у якім узялі ўдзел беларускія танцоры, выконваючы „Крыжачка", „Мікіту" і „Лявоніху".

**САУТ-РЫВЭР — НЬЮ-БРАНСВІК**

Каб не дапусьціць да адыходу моладзі ад грамадзкага жыцьця, старанькімі сябры Міхася Каранеўскага 13 кастрычніка 1957 г. зарганізаваўся аддзел ЗБМ Саўт-Рывэр — Нью-Брансвік. Пры заснаваньні аддзел налічваў 16 сяброў, вялікая частка якіх актыўная й працавітая. За даволі кароткі час свайго арганізацыйнага жыцьця аддзел мае даволі вялікія дасягненьні. Ніводная беларуская імпрэза ці сьвяткаваньне не адбыліся без актыўнага ўдзелу моладзі. Мастацкія часткі ўсіх беларускіх урачыстасьцяў належалі вылучна моладзі. Вельмі ўдала зарганізаваная нядаўная вечарына дала нагоду моладзі й старэйшым вясёла й прыемна правесьці час. Палавіну прыбытку аддзел моладзі ахвяраваў на беларускую радыёвую перадачу ў Нью-Ёрку.

Моладзь аддзелу вельмі ўдзячная сп. сп. Ул. Кабушку й В. Стому за іхныя рэфэраты зь гісторыі й традыцыяў Беларусі.

Побач агульных танцаў наша моладзь не забываецца й пра свае народныя беларускія — лявоніха й крыжачок выконваюцца дасканальна.

16 лістапада 1958 г. адбыліся перавыбары кіраўніцтва аддзелу. Моладзь вельмі высока ацаніла працу





Сяброўка Аліна Лосік — першая дзяўчына абраная за кіраўніка аддзелу ЗБМА (у Саўт Рывэр — Нью Брансвік). Сб. Аліна канчае сёлета школу і мае намер ісьці на ўнівэрсытэт.

свае сяброўкі Галіны Лосік, сакратара аддзелу, і пры выбарах новага кіраўніцтва яе абралі за кіраўніка аддзелу. Міхась Каранеўскі атрымаў вельмі важную функцыю скарбніка. За сакратара абралі сяброўку Ганну Стому, за заступніка кіраўніка — Герду Кабушку. Функцыя сябры кіраўніцтва дасталася Юрку Стагановічу. У рэвізійную камісію ўвайшлі В. Стома, Надзя Хмялеўская ды Ізяслава Кабушка. Фінансавая гаспадарка аддзелу вялася таксама няблага, бо на дзень перавыбараў каса аддзелу мела 133 даляры.

Вяручы наўвагу, што бадай усе сябры аддзелу вучацца ў амэрыканскіх школах, часу ў іх не зашмат, аднак агульныя зборкі праходзяць заўсёды актыўна. Імкненьне аддзелу — здабыць сваю собскую сьвятліцу, дзе-б можна было чуцца як у сябе дома.

У жыцьці мясцовае арганізацыі моладзі адчуваецца падзел старэйшага грамадзтва. Калі-б усе былі разам, дык сяньня напэўна мелі-б ужо свой грамадзкі дом, у Саўт-Рывэры ці ў Нью-Брансвіку. Маліцца й працаваць для беларускае справы на чужыне мы павінны разам.

**КЛІУЛЕНД**

**Курс беларусаведы**

ЗБМ у Кліўленьдзе зарганізавала курс беларусаведы. Першы даклад прачытаў др. Ст. Грынкевіч 25 кастрычніка 1958 г. у сьвятліцы Беларускага Дому. Даклад вельмі зацікавіў слухачоў і, трэба спадзявацца, гэта прынясе карысьць і будуць вынікі.

**Вечарынка**

2 лістапада 1958 г. моладзь ладзіла беларускую вечарыну, якая выпала найбольш удала з усіх ладжаных папярэднімі разамі. Да гэтага спрычынілася папулярная заля й добрая рэкляма з боку кіраўніцтва. З усіх прыбылых Беларусы складалі толькі чацьвёртую частку — гэта добрая зьява й вялікае дасягненьне моладзі, што прыдбала так шмат сымпатыкаў сярод іншых нацыянальнасьцяў.

Ад добрае вечарынкі добра падрасла й каса ЗБМ.

**На міжнацыянальным канцэрце**

8 лістапада Арганізацыя праваслаўных Цэркваў у Кліўленьдзе ладзіла канцэрт-забаву ў ваднэй з большых заляў места. У гэтай імпрэзе Беларусы (БАПЦ) узялі актыўны й масавы ўдзел. У мастацкай частцы бралі ўдзел дзьве танцавальныя групы: школьная група пад кіраўніцтвам Мані Лук'янчык і група моладзі пад кі-

раўніцтвам Уладзімера Дунца. Абедзьве групы вельмі добра зарэпрэзэнтаваліся. Пасьля выступу старшыня й дырэктарка ўспомненае арганізацыі дзякавалі й заявілі, што беларускія танцы занялі першае месца ў цэлай праграме канцэрту. Апрача Беларусаў, выступалі Украінцы, Румыны, Грэкі, Сэрбы й Сырыйцы. Апошнія зацікавілі сваймі арабскімі танцамі й сьпевамі. Уся вечарына прайшла ў сяброўскай атмасфэры. Аднак, Расейцы, якія маюць найбольш прыходаў, адмовіліся выступаць у ваднэй вялікай праваслаўнай сям'і, дзе кажная нацыянальнасьць паказвае сваё народнае мастацтва й зь вялікай павагай ставіцца да іншых.

**Беларуская выстаўка**

15 лістапада 1958 г. ў Картэр Гатэлі Арганізацыя народнага мастацтва, якая ладзіць штогоду міжнацыянальныя фэстывалі, зарганізавала банкет з танцамі, дзе кажная нацыянальнасьць магла зрабіць выстаўку ручных работаў з народнымі асаблівасьцямі. Беларускую выстаўку зарганізавала моладзь. Выстаўка была даволі цікавая, хоць і не найлепшая. Кіраўніцтва аддзелу пры нагодзе хоча падзякаваць сп. Я. Кузьміцкаму, які вельмі шмат даў разьбярскіх рэчаў, а таксама сп-ні К. Чэрнік. На банкеце й забаве беларуская моладзь у народных сторях выклікала да сябе ўвагу публікі. На гэтай імпрэзе былі прадстаўнікі ад усіх галінаў улады Кліўленду на чале з мэрам места.

**Даклад д-ра Ст. Станкевіча**

26 лістапада 1958 г., на запросіны кіраўніцтва моладзі, у Кліўленд завітаў высокапаважаны госьць др. Ст. Станкевіч, які прыбыў зь Нямеччыны на сталае пражываньне ў Амэрыку, хоць яшчэ й будзе весьці далей у Эўропе сваю працу. А 7-ай гадзіне ўвечары ў сьвятліцы Беларускага дому др. Ст. Станкевіч прачытаў для Беларусаў Кліўленду інфармацыйны даклад пра жыцьцё й дзейнасьць Беларусаў у Нямеччыне. Таксама падзяліўся сваймі ўражаньнямі з Амэрыкі. Пасьля дакладу праслухалі два скрыпты, запісаныя на магнітафонную йстужку ў ньюёркаўскім аддзеле Беларускае сэкцыі радыя „Вызваленьне", з сэрыі „Выгубленыя бальшавікамі", ды літаратурна-музычны мантаж „Беларусь".

Назаўтра, 27 лістапада, агульнымі сіламі беларускае калёніі (ініцыятыва студэнтаў) быў наладжаны банкет з традыцыйнымі індыкамі, якіх пякуць у Амэрыцы ў гэты „Дзень Удзячнасьці". Апрача агульнага сьпеву на банкеце выступала маладая салістка Іра Каляда з музыкамі „Палесься" Ул. Ліцьвінкам і М. Стрэчанем. Таксама было шмат прамоваў, у якіх віталі дарагога гасьця, а хор прасьпяваў яму „многае лета".

У сыботу 29 лістапада кліўлендцы разьвіталіся з д-рам Ст. Станкевічам з надзеяй, што неўзабаве будзе зноў радасная сустрэча на даўжэйшы час.

**Удзел у абходзе Слуцкага паўстаньня.**

7 сьнежня 1958 г. моладзь брала актыўны ўдзел у акадэміі, прысьвячанай 38-м угодкам Слуцкага паўстаньня. Акадэмію зарганізавала БАЗА. Рэфэрат чытаў др. Ст. Грынкевіч. Мастацкую частку акадэміі зрыхтаваў сп. К. Кіслы. Дакладнейшае апісаньне пададзенае ў прэсе.

*Той не ашукаецца, хто нікога ня робіць.*



**Спорт**

З разыграных сёлета турніраў вынікі наступныя: у пінгпонгу (настольны тэніс) заняў першае месца А. Міраеўскі, другое — Лёня Міхальчык, трэйцяе — В. Валюкевіч, а ў шахматах першае месца — К. Семянчук, другое — Я. Раковіч, трэйцяе — М. Міраеўскі й А. Семянчук (набралі пароўну пунктаў). Налета ў спартовых змаганьнях возьме ўдзел больш моладзі, асабліва малодшае.

**Вітаньні й жаданьні**

Кіраўніцтва аддзелу шчыра вітае сябру Міхася Шыкалюка й зычыць яму шмат удачаў у новым сужэнскім жыцьці. Міхась быў калісь у Кліўленьдзе адзін з актыўнейшых сяброў, а цяпер выехаў у Ракфорд, адкуль таксама памагае шмат нашаму аддзелу. Дармо, што далёка (каля 500 міляў), на вясельле з Кліўленду езьдзіла больш за 30 асобаў. Гэта паказвае, што кліўлендцы памятаюць аб тым, з кім жылі й працавалі.

❖

## КАЛЯНДАР І ПЛЯНЫ

**Нью-Ёрк**

**10 студзеня** ў БГЦ (401 Атлэнтык эвэню) адбудзецца „ялінка" ньюёркаўскага аддзелу ЗБМ. Пачатак а 7-ай гадзіне ўвечары. У праграме падарункі, неспадзеўкі, калядныя песьні й „сьвяты Мікалай".

**31 студзеня** Анатоль Александровіч і Эрыка Вэдмід (абое сябры ЗБМА) бяруць шлюб у саборы сьв. Кірылы Тураўскага (401 Атлэнтык эвэню ў Брукліне). Запрошана каля 200 асобаў гасьцей. Вясельная бясёда пачнецца а 6-ай гадзіне ўвечары ў АрСі-Пі Гол, Глэнмор эвэню № 120 у Брукліне.

**У студзені** кажны не-грамадзянін Амэрыкі мусіць выпаўніць рэгістрацыйную картку. Карткі атрымваюцца на пошце. Запоўніўшы картку, яе нельга высылаць паштовай дарогай, а трэба здаць там-жа на пошце, асабіста. Гэта вельмі важная фармальнасьць, і яе кажны павінен выканаць.

**1 сакавіка** „Фолк фэстывал каўнсыл" (Рада народных мастацтваў) ладзіць у Нью-Ёрку „вечар нацыянальнасьцяў". У праграме вечару возьмуць удзел: Беларусы (ньюёркаўскі аддзел ЗБМ), група „Амэрыкэн сквэрс", Грэкі, Ізраэльцы й Фінляндцы. Будзе цікавая праграма!

**Кліўленд**

— Танцавальная група моладзі мае неўзабаве выступіць на тэлевізіі. Кіраўніцтва робіць захады ўжо даволі даўно і, выглядае, што стараньні не пайшлі надарма.

— Моладзь возьме ўдзел у „ялінцы", якую арганізуе беларуская школа ў Кліўленьдзе.

— На праваслаўныя Каляды група калядоўшчыкаў абойдзе беларускія сем'і з зоркаю й прыгожымі калядкамі.

— Бюлетэнь аддзелу больш выдавацца ня будзе, бо Галоўнае кіраўніцтва ЗБМА пастанавіла выдаваць друкаваны часапіс, дзе будзе падавацца ўсё ад усіх аддзелаў.

**11 студзеня** (першая нядзеля пасьля Калядаў) будзе наладжаны калядны банкет з танцамі.

**31 студзеня** аддзел ЗБМ ладзіць беларускую вечарыну. Кіраўніцтва спадзяецца, што гэтая вечарынка бу-

*Як за свайго йсьці, дык сьцежкі-дарожкі, а за гужога — дробныя слёзкі.*

дзе яшчэ больш удалая за апошнюю.

— Справа з выданьнем „Беларускага песеннага зборніка" зацягваецца, бо перапісвальнік нотаў можа працаваць толькі вечарамі, а зрабіць адну балонку займае 2-3 гадзіны. Таму паведамляем усім, хто падпісаўся на зборнік, што справа на добрай дарозе, толькі просім яшчэ крыху цярплівосьці. Песеньнік будзе абыймаць каля 225 балонак. Калі знойдзецца яшчэ шмат перадплатнікаў — песеньнік можа й пабольшыцца. Таксама просім паважанае грамадзянства купляць выданьні кліўлендзкае моладзі, што дапаможа выдавецтву. — **Кіраўніцтва аддзелу.**

---

## *КАНЦАВІЦА*

Сваю жыцьцёвую дарогу „Беларуская моладзь" (БМ) пачынае квартальнікам — праўда, невялікім, але бадзёрым і поўным спадзяваньняў. Шмат хто прывітае БМ шчыра, з радасьцяй — як вітаецца добрага сябру-спадарожніка перад пачаткам даўгога шляху. Гэткага вітаньня БМ і зычыць сабе. Але сёй-той усьміхнецца й скептычна. А чаму-ж-бы й не? Ці-ж да гэтага прычынаў у нас ня было? — Было — пэўна-ж. „Яшчэ адзін, — скажуць, — нябожчык нарадзіўся: ня ўправішся аднаго пахаваць, як новы вылазіць..." Гэткіх засьцярогаў трэба чакаць, і зь імі трэба лічыцца — трэба лічыцца, каб давесьці яшчэ раз, што ёсьць вынятккі ў правілах ды што гэтым выняткам будзе якраз ЗБМА. А на гэта ня трэба шмат. Даволі нам трымацца ўсяго двух прынцыпаў, каб часапіс жыў і рос. А прынцыпы простыя:

*Першы:* „Беларуская моладзь" павінна разумецца намі, як паказьнік сілы й жыцьцяздольнасьці ЗБМА (а ці-ж у нас няма яе?).

*Другі:* Пачынаючы ад Галоўнага кіраўніка, кажны сябра ЗБМА павінен *купіць* адзін нумар часапісу сам, а другі *прадаць* свайму знаёмаму. І гэта ўсё.

На парозе шырокіх далягдядаў БМ зварачаецца да ўсіх сваіх будучых чытачоў, прыяцеляў і сымпатыкаў словамі паэты:

Мае сябры, супольнікі у працы,
Штурмуйце будучыні аванпосты!
Мы перашкодаў звыклі не баяцца —
Яны спрыяюць нашаму узросту.

**Падзяка.** Рэдакцыя „Беларускае моладзі" выказвае шчырую падзяку сп. Антону Адамовічу, які, не шкадуючы свайго каштоўнага часу, даў вялікую дапамогу ў зрыхтаваньні гэтага часапісу.



ПРАЧЫТАЙ...

### ПЛЫВЕ З-ПАД СЬВЯТОЕ ГАРЫ НЁМАН*)

**Юркі Віцьбіча**

Кніжка цікавая кажнаму, але напісаная для Цябе, — для Цябе, што ня здолееў яшчэ пазнаць усіх тайніцаў прыгаства роднага краю, адчуць подыху мінулых стагодзьдзяў у назовах рэк і местаў, зьвязаць гучаньне знаёмых словаў із слаўнымі дзеямі Тваіх вольных прашчураў. Напісаная лёгкім стылем, прыгожай мовай. Беларусь паўстае перад Табой ува ўсім багацьці й трагізьме захапляючых гістарычных панарамаў, і Ты чуешся сынам народу-волата, пераможанага, але непераможнага. Юрка Віцьбіч піша: „І калі глыбокапаважаны чытач яшчэ раз пераканаецца ў непаўторнасьці й прыгожасьці нашае Бацькаўшчыны, дык значыцца аўтар дасягнуў тае мэты, да якое імкнуўся ў сваёй працы". Пісьменьнік бясспрэчна дасягнуў свае мэты. Цяпер Твой чарод.

Прачытай!

Хараство й слава Бацькаўшчыны дадуць і Табе сілы да вялікага чыну, узбагацяць духова, дапаўняючы сэнс жыцьця вайстрэйшым адчуваньнем высакароднае справы адраджэньня паняволенага народу.

---

*) Кніжка выйшла ў выдавецтве „Бацькаўшчына" ў 1956 г.; 94 балонкі.

---

## Гумар

У селяніна асеў на гасподзе казак і адразу ўдяў загадны тон. Калі яго папрасілі на абед, дык ён абурыўся, што перад ядою не далі гарэлкі. Хочучы-ж за гэта прыгразіць гаспадару, дастаў шаблю і палажыў яе на стале. Селянін спакойна выйшаў з хаты ды зараз-жа вярнуўся зь віламі й моўчкі палажыў іх поруч з шабляю.

— Што гэта знача? — пытаецца казак.

— Нічога! Да вялікага нажа трэба й вялікі відэлец, — адказаў селянін.

---

**Нэрвовы.** У гатэлі прыпыніўся нэрвовы пастаялец і папрасіў жыхароў суседніх пакояў, каб яны, кладучыся ўначы спаць, ня стукалі, бо найменшы шум яго вельмі нэрвуе, і ён ня можа заснуць. Але якраз сталася так, што адзін з гэных жыхароў вярнуўся позна ўначы, і забыўшыся аб сваім нэрвовым суседзе, зьняў бот ды кінуў яго ў кут. Тады, аднак, успомніўшы суседаву просьбу, ціхенька зьняў другі бот, як найцішэй разьдзеўся й лёг.

Па трох гадзінах, стукаючы ў сьцяну, будзіць яго той нэрвовы сусед ды злосна крычыць:

— Калі-ж Вы, да ліха, кінеце ў кут другі бот?

## ЗАГАДКА

**Бочка квасу.** Два гаспадары знайшлі бочку квасу. На шчасьце ў іх былі дзьве малыя бочачкі: адна на тры вядры, а другая — на сем. Пералілі яны ў свае бочачкі квас і выйшла яго гэтулькі, каб напоўніць абедзьве бочачкі, значыцца 10 вёдраў.

А як разам знайшлі, дык трэба-ж пораўні падзяліць. Як-жа яны падзяліліся пры дапамозе сваіх бочачак?

*Гультай за работу — мазоль за рукі.*

